












АГУЛЬНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА — РАСПАЎСЮДЖВАЕЦЦА Ў 48 КРАІНАХ

# Голас Радзімы

12 ліпеня 2000 года
Цана 85 рублёў

№ 28 (2690)

Штотыднёвая газета для суайчыннікаў за межамі Беларусі
Выдаецца з 6 красавіка 1955 года


## АЗДАРАЎЛЕННЕ



Зараз у Брэсцкай вобласці працуюць 40 стацыянарных лагераў, 145 лагераў у арэндаваных памяшканнях і 405 у школах. За лета ў іх адпачнуць болей за 300 тысяч дзяцей.

Аздараўленчы цэнтр "Журавінка" ААТ "Дываны Брэста" — адзін з лепшых у вобласці. За чатыры змены тут палепшаць здароўе 360 дзяцей: 160 з іх "чарнобыльцы" і дзеці-сіроты з Кобрынскай "дзіцячай вёскі". "Журавінка" ўжо сёмы год пасля рэканструкцыі сустракае дзяцей.

НА ЗДЫМКУ: дзеці з Кобрынскай "дзіцячай вёскі" і іх выхавальніца Галіна ЗАВАДСКАЯ задаволены адпачынкам у "Журавінцы".

**Фота Рамана КАБЯКА**, БелТА.

## БЕЛАРУСКАЯ ЭКСПАЗІЦЫЯ Ў ГАНОВЕРЫ

Прадаўжаецца работа беларускай экспазіцыі на Сусветнай выстаўцы "ЭКСПА-2000" у Гановеры. У аснове прэзентацыі — дэманстрацыя дасягненняў краіны ў сацыяльна-эканамічнай і навукова-тэхнічнай сферах, культуры і мастацтве. Акрамя таго, экспазіцыя Беларусі распавядае гасцям выставы пра нацыянальныя традыцыі і абрады беларусаў. Адзін з найкаштоўных экспанатаў беларускай экспазіцыі ў Гановеры — Біблія, выдадзеная ў Празе ў 1518 годзе Францыскам Скарынам.

## ЛІТЭКСПРЭС «ЕЎРОПА-2000»

● **Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ,** *намеснік старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў.*

**Прыблізна месяц таму стартаваў "праект Стагоддзя", як назвалі яго многія сродкі масавай інфармацыі еўрапейскіх краін. Ініцыятыва адправіцца ў творчае падарожжа па Еўропе па забытым сёння, але некалі вельмі ажыўленым шляху паўночна-паўднёвага экспрэса належыць нямецкаму літаратуразнаўцу, доктару філалагічных навук Томасу Волфарту.**

**Да праекта далучыліся многія міжнародныя арганізацыі — Савет Еўропы, ЮНЕСКА, Міжнародны саюз чыгунак. Падтрымалі ідэю і ўлады Беларусі, стварыўшы нацыянальны аргкамітэт на чале з намеснікам міністра культуры Валерыем Гедройцам.**

**Сем тысяч кіламетраў шляху 120 пісьменнікаў з 45 еўрапейскіх краін напоўнены цікавымі сустрэчамі і выступленнямі, магчымасцю супольна абмяркоўваць праблемы літаратуры. У шматлікай інтэрнацыянальнай сям'і і трое беларусаў — Вольга Іпатава, Леанід Дранько-Майсюк і Андрэй Федарэнка. 9—10 ліпеня з удзельнікамі Літэкспрэса сустракаецца беларуская пісьменніцкая арганізацыя. Вітаючы гасцей Літэкспрэса, беларускія літаратары спадзяюцца на новыя кантакты, на пашырэнне шляху беларускага слова ў Еўропе, на разуменне нашых праблем і памкненняў.**

**Шмат зроблена і па далучэнні беларускага чытача да здабыткаў еўрапейскіх літаратараў. Гэтая падборка вершаў нашых калег — даніна азначанай важнай і высакароднай задачы.**

### Аманда АЙЗПУРЫЕТЭ

На ўскрайку Вавілону дождж ідзе.
Чужыя мовы застаюцца
за кулісамі дажджу.
Чырвоныя ручайчыкі сцякаюць
паўз муры.
Падмуркі плешчуцца.
Наш дом узведзены з абломкаў
вежы —
як і ва ўсіх на ўскрайку Вавілону.
Я ведаю сем слоў з тваёй гаворкі.
Дождж — гэткі шчодра-
небяспечны, як каханне.
Дождж змые прэч, знясе наш дом
яшчэ далей з абломкаў
усеагульнай мовы.

*Пераклаў з латышскай*
*Андрэй ГУЦАЎ.*

### Інга-Ліна ЛІНДКВІСТ

### КАТАЛОНІЯ

Уяві сабе пляц, нацягнуты,
як палатно,
Тваё вар'яцтва ў каштанавых
фарбах альбо тваё
Нявольніцтва на адлегласці, што
так моцна нагадвае
Мост праз высахлы ручай,
вяроўку з мокрай бялізнай.

Уяві сабе потым усё гэта ў форме
Жука ў бурштыне. Вока ў вока,
самотны
З жуком, ты адзіная мэбля
У доме вечнасці на чатыры
паверхі.

Усё перад табою — маленства
ў творным склоне,
Твая маці, яе вачэй неабсяжны
краявід, яе залатая скура.
Пірэнейскія лясы — твой самы
надзейны сховў.
У пірэнейскіх лясах — там воўк
сябруе з дзіком
І з яго паласатымі дзіцянятамі
І з горным казлом — вось крочыць
наперадзе так хутка паўлін,
Трус адступае, сыходзіць.
Па следзе згаданага вышэй

Цягнецца час... Ды не.
Час прысутны тут.
Ён есць з тваёй міскі, п'е з твайго
кубка.
Час хутка бяжыць тут, сярод
пірэнейскіх лясоў.
Тут — твой самы надзейны сховў.

Праз два прыпынкі ты
расплюшчваеш вочы, як цяпер,
І бязлітасна сябе прымушаеш
бачыць
Навальніцу, што набліжаецца,
мост праз высахлы ручай,
Тваё вар'яцтва ў каштанавых
фарбах, тваё

Несумленнае адступленне, тваю
велізарную ганьбу.
Ты цягнешся да парадку слоў
тваёй памяці, выпадкаў
Узаемнаўпарадкаванасці.
Да дзейніка. Дапаўнення.
Пустаты вагі. Лічы самога сябе
за шчасліўца.

Паўлін цябе не спыніў, трус цябе
не напаткаў.
Ды зямля раскалолася на дзве
палавінкі, як бурштын.
Ты можаш выбраць, якую
схочаш, з дзвюх
Бяздонных прорваў... якую ты...
якая ты... схочаш.

*Пераклаў са шведскай*
*Лявон БАРШЧЭЎСКІ.*

## СПОРТ

**ЛЁГКАЯ АТЛЕТЫКА.** 22-гадовая Алеся Турава палепшыла рэкорд Беларусі 18-гадовай даўнасці ў бегу на 5 000 м.

Новы поспех прыйшоў да яе на спаборніцтвах у Мілане (Італія) на дыстанцыі 3 000 м. У вельмі моцнай кампаніі Турава фінішавала восьмай за 8.44,81. Гэта вынік міжнароднага класа. Дарэчы, апярэдзілі беларуску толькі афрыканскія спартсменкі.

**АКАДЭМІЧНАЯ ГРЭБЛЯ.** На другім этапе Кубка свету па-за канкурэнцыяй была васьмёрка беларускіх дзяўчат з кармавым весляром Марынай Знак. Менш паспяхова выступіла мужчынская парная двойка — сёмае месца.

**ЛЁГКАЯ АТЛЕТЫКА.** На спаборніцтвах у Нюрнбергу Наталля Духнова фінішавала чацвёртай у бегу на 800 метраў — 2.00,48. Яніна Карольчык з немкай Астрыд Кумбернус з не вельмі высокім паказчыкам — 18 м 95 см падзялілі 1—2 месца ў штурханні ядра. А ў Рызе беларус Андрэй Лелін узяў вышыню 2 м 30 см. Так высока нашы скакуны даўно ўжо не ўзляталі.

**ТЭНІС.** Мінчанін В. Валчкоў выйграў у першым крузе Уімблдонскага турніру ў аргенцінца Х.-І. Хела — 6:3, 3:6, 6:3, 6:0. Н. Зверава перамагла Д. Палін (Англія) — 6:4, 6:3. Выйграла свой матч у Барбары Шэт з Аўстрыі і В. Барабаншчыкава — 6:2, 6:2.

**НАПЯРЭДАДНІ АЛІМПІЯДЫ.** Адзіны баксёр ад Беларусі будзе прадстаўляць краіну на Алімпіядзе ў Сіднэі — віцяблянін Сяргей Быкоўскі ў вагавай катэгорыі 63,5 кілаграма. Сяргей — чэмпіён Беларусі 1990—1999 гадоў, удзельнік Алімпійскіх гульняў 1996 года ў ЗША, дзе заняў 8 месца, прызёр шмат якіх міжнародных турніраў і чэмпіянатаў у Чэхіі, Румыніі, Францыі, Венгрыі, Польшчы. На Міжнародным турніры памяці В. Усава, што нядаўна прайшоў у Гродне, ён стаў пераможцам. Зараз Сяргей рыхтуецца да Алімпійскіх гульняў у Сіднэі.



БелТА.

*Сяргей БЫКОЎСКІ з сынам Захарам.*


«ГР»

НА БЕЛАРУСІ ПАДПІСАЦЦА МОЖА КОЖНЫ! Індэкс 63854, кошт на 1 месяц — 364 рублі.

У МІНСКУ ЗАЎСЁДЫ МОЖНА НАБЫЦЬ У МАГАЗІНЕ № 2 "БЕЛСАЮЗДРУКУ" — праспект Ф. СКАРЫНЫ, 44.

УКЛЮЧАНЫ Ў ПАДПІСНЫЯ КАТАЛОГІ РАСІІ, УКРАІНЫ, ЛІТВЫ, КАЗАХСТАНА, КЫРГЫЗСТАНА.

АСПЕКТ ПРАБЛЕМЫ

**УРАД БЕЛАРУСІ РАЗГЛЯДАЕ МАГЧЫМАСЦЬ РАЗМЯШЧЭННЯ НА ТЭРЫТОРЫІ КРАІНЫ АГРАРНЫХ МІНІ-КАЛОНІЙ З ЗАХОДНІХ ДЗЯРЖАЎ.** Пра гэта паведаміў журналістам кансультант сакратарыята Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Беларусь Уладзімір Собалеў.

Паводле яго слоў, першыя прапановы аб размяшчэнні ў Беларусі міні-калоній фермераў былі атрыманы два з паловай гады таму ад групы фірм з Галандыі. З-за перавытворчасці сельскагаспадарчай прадукцыі ў гэтай краіне з мэтай рэалізацыі землекарыстання была прынята пяцігадовая праграма скарачэння на 25 працэнтаў сельскагаспадарчай вытворчасці і занятасці насельніцтва ў гэтай сферы. Ініцыятыва галандскага боку па размяшчэнню ў Беларусі міні-калоній матывавана тым, што, нягледзячы на прынятце кампенсацыйных мер, а таксама рэалізацыю праграм перанавучэння, большасць галандскіх фермераў не хочуць кідаць работу на зямлі і гатовы весці гаспадарку нават у іншай краіне.

У. Собалеў адзначыў, што цяпер пілотны праект галандскіх фермераў рэалізуецца ў Гродзенскай вобласці без змянення правоў традыцыйнага землекарыстальніка. Паводле слоў кансультанта, пры паспяховай рэалізацыі праекта галандскі бок гатовы ўкласці ў яго развіццё 15 мільёнаў долараў на ўмовах арэнды сельгасугоддзяў.

Аналагічныя прапановы беларускі бок атрымаў з Германіі,паведаміў У. Собалеў. Аднак у адрозненне ад галандскіх фермераў германскія не патрабуюць перадачы ім зямель у прыватную ўласнасць і згодныя арандаваць іх тэрмінам на 99 гадоў.

У. Собалеў лічыць, што такія праекты вельмі выгадныя для Беларусі, таму што разам з высокакваліфікаванай рабочай сілай, самай сучаснай тэхнікай у краіну прыйдуць прагрэсіўныя аграрныя тэхналогіі сусветных лідэраў у сельскай гаспадарцы. На яго думку, стварэнне фермерскіх міні-калоній дапаможа не толькі ліквідаваць "адсталасць нацыянальнага аграпрамысловага комплексу", але і насыціць рынак якаснымі прадуктамі першаснай вытворчасці, аб'ём якіх у краіне з кожным годам скарачаецца.

**Інтэрфакс.**

ТОЛЬКІ ФАКТ



**АМАЗОНКА БЕЛАРУСКАЙ АРМІІ**

**Пяты год яфрэйтар Жанна Казловіч служыць у баявым падраздзяленні мінамётнай батарэі 38-й мабільнай брыгады. Завочна вучыцца на юрыдычным факультэце Белдзяржуніверсітэта. Сама з сям'і ваенных, яна з дзяцінства любіць армію. Акрамя свайго непасрэднага абавязку падтрымліваць радыётэлефонную сувязь, Жанна нараўне з хлопцамі скача з парашутам, бегае, страляе, здае нарматывы, удзяльнічае ў вучэннях.**

**НА ЗДЫМКУ: яфрэйтар Жанна КАЗЛОВІЧ.**

* * *

Па даным прэс-цэнтра Міністэрства абароны, у беларускай арміі служыць больш за чатыры тысячы жанчын. 103 з іх носяць афіцэрскія пагоны (чатыры падпалкоўнікі, дзевяць маёраў, 24 капітаны, 47 старшых лейтэнантаў і 19 лейтэнантаў). Каля 700 чалавек займаюць пасады прапаршчыкаў, астатнія праходзяць службу па кантракту на пасадах сяржантаў і салдат.

Ваенная акадэмія не прымае на вучобу жанчын з наступным прысваеннем звання лейтэнант, аднак усё роўна ў прадстаўніц прыгожай паловы ёсць магчымасць стаць афіцэрам. Для гэтага трэба мець вышэйшую адукацыю і спецыяльнасць, роднасную армейскай, а таксама ўзрост да 35 гадоў. Жанчыны, якія не маюць вышэйшай адукацыі, могуць здзейсніць сваю мару пра армейскую службу, звярнуўшыся ў ваенкамант па месцы жыхарства.

АКТУАЛЬНА

# КНІГІ СТАНУЦЬ БОЛЬШ ТАННЫМІ. АКРАМЯ РЭКЛАМНЫХ І ЭРАТЫЧНЫХ

2 чэрвеня Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь прыняты ўказ "Аб некаторых мерах па забеспячэнню насельніцтва рэспублікі кніжнай прадукцыяй, звязанай з адукацыяй, навукай і культурай, і аб дзяржаўнай падтрымцы нацыянальнага кнігавыдання ў 2000—2001 гадах". У адпаведнасці з указам, названая катэгорыя кніг вызваляецца ад падатку на прыбытак, дабаўленую вартасць і рэнтнага збору. У выніку кошт паліграфічных паслуг знізіцца адразу на 8—10 працэнтаў, а цана кнігі — на 15—20 працэнтаў. Што асабліва важна, найбольш знізяцца цэны на малатыражную літаратуру, да якой адносіцца і беларускамоўная. Акрамя новых ільгот, захоўваюцца і ранейшыя — дзяржаўныя субсідыі ад 50 да 100 працэнтаў.

Па словах намесніка старшыні Дзяржаўнага камітэта па друку Станіслава Нічыпаровіча, указ прыняты вельмі своечасова. Напрыклад, у Расіі аналагічны закон дзейнічае ўжо некалькі гадоў, і канкурываваць з расіянамі рабілася ўсё цяжэй і цяжэй. А пасля таго, як у нас быў уведзены дваццаціпрацэнтны падатак на дабаўленую вартасць, паліграфія Беларусі ўвогуле страціла ўсялякую канкурэнтаздольнасць. (Для параўнання: у Расіі ПДВ на кніжную прадукцыю няма ўвогуле, у іншых еўрапейскіх краінах ён не перавышае 3—5 працэнтаў.) У выніку да апошняга часу шоў рэзкі адток заказчыкаў, а 80 працэнтаў кніжнага асартыменту складалі кнігі расійскіх выдавецтваў.

Зараз Дзяржаўны камітэт па друку працуе над механізмам рэалізацыі гэтага ўказа. Савет Міністраў павінен зацвердзіць пералік паліграфічнага абсталявання і матэрыялаў, якія падлягаюць вызваленню ад ПДВ, і вызначыць парадак і крытэрыі вылучэння кніжнай прадукцыі, звязанай з адукацыяй, навукай і культурай. Мяркуючы па ўсім, гэта будзе вялікі спектр літаратуры — за выключэннем кніг рэкламнага і эратычнага характару.

**Нэлі ПРЫВАЛАВА.**



● **Раман КАБЯК**, БелТА.

Баранавіцкая птушкафабрыка за апошнія гады павялічыла пагалоўе птушкі з 200 да 600 тысяч. Летась на фабрыцы атрымана 146 мільёнаў штук яек. Прадпрыемства мае дванаццаць фірменных магазінаў.

Аднак апошні час на фабрыцы ўтварыліся залежы дыетычнага прадукту. Гандаль аддае перавагу больш танным яйкам з Расіі або з суседняй Польшчы. Прадпрыемства шукае выйсце.

НА ЗДЫМКУ: птушніца Лідзія ЛУКАШАВА працуе на новай птушкаферме, дзе ўтрымліваецца 19 500 нясушак пароды "беларуская карычневая".

ЭКАЛАГІЧНАЕ ВЫХАВАННЕ

# У ГАРМОНІІ З ПРЫРОДАЙ

Сёлета Рэспубліканскі экалагічны цэнтр святкуе сваё 70-годдзе. Гісторыя цэнтра цесна пераплецена з развіццём юннацкага руху на Беларусі. Гурткі юных натуралістаў былі арганізаваны амаль у кожнай школе і карысталіся папулярнасцю ў дзяцей. І зараз экацэнтр арганізуе і каардынуе работу пазашкольных устаноў і школ Беларусі. Пры ім створаны чатыры профільныя лабараторыі: экалогіі і аховы прыроды, сельскагаспадарчай экалогіі, біялогіі, кветкаводства і азелянення. Дзейнічаюць Беларуская малая лясная завочная акадэмія, біялагічная школа, школа фермераў. У экацэнтры хлопцы і дзяўчаты могуць набыць прафесіі фоталабаранта, лабаранта-эколага.

Ужо 11 гадоў цэнтр узначальвае рэспубліканскую экалагічную экспедыцыю дзяцей і выкладчыкаў. Некалькі пакаленняў юннатаў вывучаюць экалагічную сітуацыю ў Бярэзінскім біясферным запаведніку, а з 1999 года і ў Свіцязянскім ландшафтным заказніку.

За 70 год існавання Рэспубліканскі экацэнтр шмат каму з моладзі дапамог у выбары прафесіі. Былыя юннаты сталі дактарамі навук, супрацоўнікамі Батанічных садоў Беларусі, Расіі, Украіны, членамі Нацыянальнай акадэміі навук краіны, выкладчыкамі. Некаторыя з іх да гэтай пары падтрымліваюць з цэнтрам цесныя адносіны.

**Аляксандра АНЦАЛЕВІЧ.**



*У час экскурсіі ў Рэспубліканскім экалагічным цэнтры.*

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

КОРАТКА

**КВАТЭРЫ ПАТАННЕЮЦЬ.** Магчымым напрамкам прыросту жылога фонду ў бліжэйшы час стане яго рэканструкцыя з надстройкай дадатковых паверхаў. Пры гэтым эканомія матэрыяльных рэсурсаў складзе 25—40 працэнтаў, а выдаткі на стварэнне інжынернай інфраструктуры знізяцца, прыкладна, у 1,5 раза. Па даных Мінскбудархітэктуры, 1 квадратны метр у такіх кватэрах будзе каштаваць амаль на 20 працэнтаў ніжэй, чым у дамах, якія будуюцца на неасвоеных тэрыторыях.

Дарэчы, па даручэнню Савета Міністраў Мінскбудархітэктура распрацавала свае прапановы па рашэнню жыллёвай праблемы. Адна з іх — зрабіць упор на развіццё пазабюджэтнага фінансавання жыллёвага будаўніцтва. У прыватнасці, перспектыўнымі названы сістэмы іпатэчнага крэдытавання (крэдыты пад залог нерухомасці) і будаўнічых зберажэнняў. За кошт гэтых сродкаў у бліжэйшыя 10 гадоў плануецца забяспечыць усіх, хто мае патрэбу ў жыллі.

* * *

**НА ДУМКУ МІХАІЛА ЧЫГІРА, АПАЗІЦЫЯ НІЧОГА НЕ ПАТРАБУЕ, АКРАМЯ СВАБОДНЫХ ВЫБАРАЎ.** "Апазіцыя нічога не патрабуе, акрамя свабодных, празрыстых выбараў", — так заявіў журналістам экспрэм'ер беларускага ўрада Міхаіл Чыгір. Размаўляючы з прадстаўнікамі прэсы перад сустрэчай з парламентарыямі вядучых еўрапейскіх структур, якія прыбылі ў Мінск з мэтай правядзення кансультацый з рознымі галінамі ўлады і апазіцыяй, ён заўважыў, што толькі адкрытыя, дэмакратычныя выбары дадуць магчымасць Беларусі годна прадстаўляць сябе ў сусветным супольніцтве.

СУПРАЦОЎНІЦТВА

**ПАСОЛ ГЕРМАНІІ ПЕРАДАЎ БДУ ДАРАГОЕ НАВУКОВАЕ АБСТАЛЯВАННЕ.** У хімічным корпусе Беларускага дзяржаўнага універсітэта адбылася сустрэча рэктара БДУ Аляксандра Казуліна з пaслом Германіі ў Беларусі Хорстам Вінкельманам. Нямецкі дыпламат перадаў Навукова-даследчаму інстытуту фізіка-хімічных праблем БДУ сучасны электронны спектрафлюарыметр.

Перадача універсітэту гэтага складанага прыбора, кошт якога ацэньваецца ў 80 тысяч нямецкіх марак, стала магчымай пасля таго, як Андрэй і Аксана Рагач, супрацоўнікі названага НДІ, паказалі выдатныя вынікі ў працы над адным з праектаў Нямецкай службы акадэмічных абменаў (DAAD).

На думку спецыялістаў, выкарыстанне спектрафлюарыметра ў навуковых даследаваннях НДІ фізіка-хімічных праблем БДУ дасць сур'ёзны штуршок для далейшых распрацовак у галіне вывучэння структуры розных рэчываў.

ПАДЗЕЯ

**АДБЫЎСЯ ПЕРШЫ ВЫПУСК ВАЕННЫХ ПСІХОЛАГАЎ.** Чатыры гады назад у беларускіх Узброеных Сілах была створана сацыяльна-псіхалагічная структура.

Сёння ўжо можна гаварыць пра тое, што работа вайсковых псіхолагаў дае значныя вынікі. У немалой ступені дзякуючы данай структуры ўдалося дабіцца скарачэння злачынстваў і здарэнняў, аздаравіць маральную атмасферу ў калектывах. Характэрны паказчык — за апошнія гады ў 2,5 раза знізілася колькасць самагубстваў. А ў часцях, падраздзяленнях, дзе ў штаце ёсць псіхолагі, наогул не было выпадкаў суіцыду.

Аднак зараз у арміі каля чвэрці пасад псіхолагаў вакантныя. Але, думаецца, гэта праблема будзе вырашана. У Ваеннай акадэміі адбыўся першы выпуск спецыялістаў данага профілю. 25 курсантаў атрымалі лейтэнанцкія пагоны і дыпломы сацыяльных педагогаў-псіхолагаў.

**Генадзь ХУДЗІНСКІ.**



САЦЫЯЛЬНЫ РАКУРС



У Рэспубліканскім шпіталі інвалідаў вайны штогод папраўляюць сваё здароўе больш за дзесяць тысяч чалавек. Тут аказваюць усе віды спецыялізаванай медыцынскай дапамогі і вядуць усебаковае абследаванне хворых, шырока прымяняючы дасягненні медыцынскай навукі.

НА ЗДЫМКУ: у аддзяленні рэанімацыі ў час абходу і агляду хворых урач Міхаіл ЛАРЫН і медыцынскія сёстры Ірына ЮРЧУК, Ганна КУЛІКОВА, Галіна КАЗЛОВА і Вольга ГРЫБОЎСКАЯ.

**Фота БелТА.**

ПРАФТЭХВУЧЫЛІШЧА Ў... КАЗАРМЕ



Не было б, як гавораць, шчасця... Ды вывад расійскіх войскаў дапамог. Застаўся ў Жыткавічах пасля гэтага цэлы воінскі гарадок з казармай, будынкамі штаба і сталовай, гаспадарчымі забудовамі. Не прападаць жа дабру, калі ў горадзе не хапае месцаў для школьнікаў, цесна ў прафтэхвучылішчы і яго інтэрнаце. Казарму вырашылі перабудаваць у ПТВ, у штабе размясціць новую школу, астатнія памяшканні аддаць пад інтэрнат. Зараз тут заканчваюцца рамонтныя работы, завозіцца мэбля.

НА ЗДЫМКАХ: маляры Алена КРАМЕНСКАЯ і Алена РУБІС заканчваюць фарбаваць вокны; так будзе выглядаць прафтэхвучылішча ў Жыткавічах.

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА.**



АБАВЯЗАК КОЖНАГА

**ПА СТАНУ НА 1 МАЯ 2000 ГОДА ДЭКЛАРАВАННЕМ СУКУПНАГА ДАХОДУ Ў БЕЛАРУСІ БЫЛО АХОПЛЕНА 210 ТЫСЯЧ 489 ЧАЛАВЕК.** Па выніках праверак, больш за 90 тысяч грамадзян прыйшлося правесці даплаты падаходнага падатку. Яго сума склала 720,2 мільёна рублёў. У той жа час амаль паўтары тысячы фізічных асоб прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці за ўхіленне ад падачы дэкларацыі. Ім прад'яўлены штраф на 29 мільёнаў рублёў. А некаторым падаткаплацельшчыкам грошы нават будуць вернуты.

ПАМЯЦЬ

# З ГІСТОРЫІ ВЁСКІ ПАДГОР'Е

***Іван Заяц — ураджэнец вёскі Падгор'е Клічаўскага раёна Магілёўскай вобласці. Зараз жыве ў Кішынёве, ён доктар эканамічных навук, прафесар Тэхнічнага універсітэта Малдовы. Але ўспаміны аб перажытым у час Вялікай Айчыннай вайны не даюць спакою. Іван Мікалаевіч даслаў у газету аповед пра гісторыю сваёй роднай беларускай вёсачкі і аднавяскоўцаў.***

Падгор'е — тыповая вёсачка ў лясістай мясцовасці Беларусі. Размешчана яна ў Клічаўскім раёне Магілёўскай вобласці побач з чыгункай Магілёў — Асіповічы. Некалі гэтыя землі належалі польскаму пану Шыманскаму. У часы Сталыпінскай рэформы беззямельныя і малазямельныя сяляне вёсак Усакіна і Дубно купілі ў яго неасвоеныя палі. Купілі ў крэдыт і чатыры гады распрацоўвалі пад пашню і сенажаці. І толькі ў 1910 годзе пачалі перасяляцца сюды на пастаяннае месца жыхарства.

Вось так і з'явілася на тапаграфічных картах невялікая, акружаная лесам і балотамі вёска Падгор'е. У 1940 годзе тут уздоўж адной шырокай вуліцы, па абодвы яе бакі, размясцілася 26 двароў. Колькасць пастаянных жыхароў складала каля 130 чалавек. Калі ў вёсцы жыццё большменш наладзілася, а саўгас імя Красіна, размешчаны на землях Падгор'я і Развадава, стаў моцнай гаспадаркай, пачалася вайна.

Не паспелі жыхары вёскі як належыць усвядоміць, што адбываецца, як у пачатку ліпеня 1941 года ў Падгор'і апынуліся немцы. Іх наступленне было такім імклівым, што ваенкамат не паспеў прызваць у армію рэзервістаў. У Падгор'і ўсе мужчыны прызыўнога ўзросту засталіся дома і не ведалі, як ім быць. Праўда, акупацыйныя ўлады спрабавалі завербаваць іх у паліцыю: маўляў, для абароны сваіх сем'яў. Нічога не атрымалася, ніхто ў паліцыю не пайшоў. Адны падаліся ў партызаны, іншыя проста пахаваліся ад акупантаў у лясах.

У канцы ліпеня ў лесе недалёка ад Падгор'я быў знойдзены труп немца. Таму карнікі нечакана з'явіліся ў вёсцы, сабралі людзей і запатрабавалі ад іх выдаць забойцу. Але ў Падгор'і не ведалі, хто здзейсніў такі ўчынак. Тады карнікі ўзялі самых моцных мужыкоў у заложнікі і пригразілі: "Зараз прыедзе камісар паліцыі акругі, і ўсім ім будзе капут!"

Высокага начальніка чакаць прыйшлося нядоўга. Калі да месца мяркуемай экзекуцыі падкаціла машына і з яе выйшаў камісар паліцыі, вёска анямела. Гэта быў Барчак, немец па нацыянальнасці, які да вайны працаваў у саўгасе імя Красіна галоўным механікам. Мужчын-заложнікаў ён ведаў не толькі ў твар, але нават і па бацьку. Усе замерлі, што ж будзе?! А потым жанчын і дзяцей прарвала: яны пачалі плакаць, кланяцца Барчаку ў ногі і прасіць, каб адпусціў невінаватых людзей. Барчак доўга маўчаў, відаць, думаў, як яму паступіць. Затым, падняўшы галаву, гучна сказаў: "Мужыкоў адпусціць! А вы ўсе: да партызан не хадзіць, новым уладам не супраціўляцца, а дапамагаць. Мы наладзім тут новае жыццё, і ўсё будзе добра!" На судзе пасля вайны, згадваючы гэты эпізод, Барчак адзначыў, што яму было сорамна перад добра знаёмымі людзьмі і, адчуваючы невінаватасць заложнікаў, ён адпусціў іх.

Здарэнне з заложнікамі было толькі пачаткам. Да падгорцаў пастаянна наведваліся паліцаі і нямецкія гаспадарнікі з паборамі. Забіралі коней і іншую скаціну, выграбалі, хто не паспеў схаваць, хлеб і бульбу, часта насільна застаўлялі мужыкоў выконваць на карысць акупантаў гаспадарчыя працы.

З першых дзён акупацыі карнікі пачалі паляваць на камуністаў і камсамольцаў. Ім удалося высачыць Д. Беляка, старшыню калгаса. Пазней імі быў расстраляны з усёй сваёй сям'ёй П. Манянок, старшыня Доўгаўскага сельсавета.

Самая ж гучная падзея, што ўзрушыла ўсіх падгорцаў і жыхароў навакольных вёсак, здарылася ў 1942 годзе. Шостага красавіка партызанскія атрады Клічаўшчыны з суседняй вёсцы Развадава далі бой атраду нямецкіх карнікаў, які прыбыў сюды з вёскі Доўгае, каб нанесці ўдар па партызанах, што размясціліся ва Усакінскіх лясах. Бой ішоў цэлы дзень. Нямала палегла там партызан, але і немцы панеслі вялікія страты. Пасля гэтага бою многія падгорцы пакінулі вёску і са сваімі пажыткамі збеглі хто куды — пераважна ў іншыя вёскі да сваякоў або знаёмых. Разумелі, што немцы прыйдуць расправіцца з імі за дзёрзкую вылазку партызан. І не памыліліся. Праз тры дні карнікі наляцелі на Падгор'е, спалілі ўсё, а людзей, якія засталіся там, забілі. А тыя, хто застаўся жывым, былі ў шоку і ў Падгор'і больш не з'яўляліся да самага вызвалення Чырвонай Арміяй.

Лета 1942 года многія падгорцы правялі ў лесе недалёка ад лагера партызан і пад іх прыкрыццём. Там яны разам з партызанамі перажылі летнюю блакаду, нападжаную акупантамі. На зіму з дзецьмі і старымі паразыходзіліся зноў па навакольных вёсках, а летам 1943 года — зноў у лес. І так да сярэдзіны ліпеня 1944 года, да прыходу Чырвонай Арміі.

Пасля вызвалення Падгор'я і суседніх вёсак ад фашыстаў падгорцы, якія засталіся ў жывых, змучаныя страхам за сваё жыццё і бадзяннем па лясах і балотах, брудныя, абарваныя, але шчаслівыя ад таго, што нарэшце пазбавіліся жаху акупацыі, вярнуліся ў вёску і пачалі абжываць свае папялішчы.

У хуткім часе палявы ваенкамат мабілізаваў на вайну ўсіх здаровых мужчын, у вёсцы засталіся адны жанчыны, старыя і дзеці. Дапамагаючы адзін аднаму, яны неяк пабудавалі сабе зямлянкі, курані і так пражылі ў іх да заканчэння вайны.

Ну а як склаўся лёс тых, хто ў складзе Чырвонай Арміі ваяваў на франтах Вялікай Айчыннай? Да шасцярых, што служылі ў арміі да вайны, у 1944 годзе дабавілася яшчэ 10 падгорцаў. Трое маладых хлопцаў змагаліся з фашыстамі ў партызанскіх атрадах. Такім чынам, ваявала на розных франтах 19 чалавек. Вярнуліся з вайны дадому 15, чатыры воіны загінулі, прычым адзін з іх — Сямён Заяц — у Брэсцкай крэпасці. З тых, хто застаўся ў жывых, чацвёра закончылі вайну ў афіцэрскіх пагонах: маёр-сувязіст, капітан-артылерыст, капітан і старшы лейтэнант — танкісты; усе ў ордэнах і медалях. Танкіст Іосіф Заяц службу ў арміі скончыў у чыне палкоўніка, камандзіра танкавай дывізіі, з 24-ма ордэнамі і медалямі. Пётр Бяляк перад выхадам на пенсію служыў у польскай арміі начальнікам сувязі воінскага злучэння ў званні палкоўніка. Мне да звальнення ў запас давялося быць намеснікам начальніка штаба артылерыі дывізіі ў чыне маёра, у запасе прысвоена званне "падпалкоўнік".

Усяго ў час вайны загінула ад рук нямецкіх карнікаў і склала галовы на фронце васемнаццаць падгорцаў — пятая частка насельніцтва вёскі. Нашчадкі захоўваюць памяць пра іх, ведаюць, чаму аднавяскоўцы дачасна пайшлі з жыцця.

**Іван ЗАЯЦ.**

Малдова.

ФЕСТЫВАЛІ

# «КАРАГОД СЯБРОЎ» У САЛІГОРСКУ

Сведкамі яркага і маляўнічага відовішча сталі ў адзін з выхадных дзён госці салігорскага Палаца культуры вытворчага аб'яднання "Беларуськалій". А падараваў ім гэтае свята дзіцячыя і юнацкія калектывы, што сабраліся тут на III абласны фестываль харэаграфічнага мастацтва Міншчыны "Карагод сяброў".

Прысутных прыемна ўразіў высокі прафесіяналізм юных танцораў, іх уменне раскрыць нацыянальныя асаблівасці беларускага танца, удалы пошук сучасных харэаграфічных форм і мастацкіх прыёмаў. І гэта не дзіва, бо ўдзел у фестывалі прымалі ў асноўным харэаграфічныя калектывы, якія носяць ганаровае званне "ўзорны".

Арганізатары фестывалю — упраўленне культуры Мінаблвыканкама, абласны цэнтр народнай творчасці і аддзел культуры Салігорскага гарвыканкама з пастаўленай задачай актывізацыі развіцця беларускага танцавальнага мастацтва, распаўсюджання лепшых узораў харэаграфіі, стымулявання творчай дзейнасці і ўмацавання сувязей паміж танцавальнымі калектывамі паспяхова справіліся, што і пацвердзілі танцавальныя праграмы юных канкурсантаў, якія ўмела і яскрава ўвасобілі беларускую нацыянальную тэму.

Аўтарытэтнаму журы на чале з заслужаным дзеячам культуры, кіраўніком харэаграфічнага ансамбля "Крупіца" Рыгорам Чорным няпроста было вылучыць лепшых з лепшых у гэтым іскрыстым "Карагодзе сяброў". Але пераможцы названы, і лаўрэаты атрымалі заслужаныя ўзнагароды.

У намінацыі за высокае выканаўчае майстэрства і сцэнічную культуру лепшым прызнаны ўзорны харэаграфічны ансамбль "Раўніца" школы № 2 з горада Барысава. Адзначаны і яго кіраўнікі: Наталля Русакевіч — за творчы пошук сучасных харэаграфічных форм і сродкаў і Наталля Буйко — за лепшую балетмайстарскую работу.

За мастацкі ўзровень рэпертуару, яго адпаведнасць узроставым асаблівасцям выканаўцаў былі адзначаны харэаграфічны ансамбль школы № 12 з Салігорска. У гэтай жа намінацыі прызёрам стаў і ансамбль танца "Расінка" Старадарожскай дзіцячай школы мастацтваў. Вылучыўся арыгінальнай рэжысурай у вырашэнні харэаграфічных праграм і салігорскі тэатр танца, які кіруюць супругі Цемчэны. Ансамбль "Дзяцінства" цэнтра дзіцячай творчасці Барысава стаў лепшым у намінацыі за ўвасабленне дзіцячай тэмы ў харэаграфічных пастаноўках, а вось ансамбль "Ігуменчанка" Чэрвеньскай школы мастацтваў, што выступаў у той жа намінацыі, рэкамендаваны да прысваення ганаровага звання "ўзорны".

Парадаваў прысутных сваёй цікавай і разнастайнай праграмай харэаграфічны ансамбль "Іскарка" Палаца культуры ВА "Беларуськалій", які, пакуль журы падводзіла вынікі, дэманстраваў гасцям фестывалю сваё высокае танцавальнае майстэрства.

Падвяла рысу пад гэтым яркім харэаграфічным відовішчам выконваючая абавязкі дырэктара абласнога цэнтра народнай творчасці Раіса Вайцяхоўская, на думку якой, фестываль, дзякуючы падтрымцы мясцовых улад, прыжывецца на гасціннай салігорскай зямлі і са сваёй галоўнай мэтай — аб'ядноўваць юных танцораў у адну вялікую сям'ю, зрабіць іх добрымі сябрамі, паспяхова справіцца.

**Аляксандр ДЫНІКАЎ.**

ЗДАРЭННІ

## ВЫБУХ НЕ АДБЫЎСЯ

Літаральна цудам удалося пазбегнуць катастрофы на чыгунцы ля вёскі Халаднікі Калінкавіцкага раёна, дзякуючы аператыўным дзеянням супрацоўнікаў МНС.

Ад дзяжурнага па станцыі паступіла паведамленне пра загаранне цеплавоза, які належыць Гомельскаму аддзяленню Беларускай чыгункі. Чыгуначны састаў з 35 цыстэрнамі бензіну па 60 тон, 65 цыстэрнамі з гаруча-змазачнымі матэрыяламі і 30 цыстэрнамі дызельнага паліва па 120 тон рухаўся ад станцыі Калінкавічы да станцыі Жлобін. Цеплавоз, які загарэўся з-за перагрэву масленага дрэнажнага бачка, своечасова быў адчэплены ад "узрыўнога" саставу і адагнаны на небяспечную адлегласць. Рух на чыгуначнай магістралі не парушыўся, а паспешыўшыя падраздзяленні МНС патушылі агонь і ліквідавалі пагрозу выбуху.



**«НЕПАМЯРКОЎНЫЯ... — II»**

# ЖАКЕЙ

І тут яго апарыла гарачыня. Зноў закружылася галава.

— Чаму гарачыня? Чаму не холадна? Я ж павінен астываць! Чаму я адзін? Дзе Наташа, сынок? Божа, прашу цябе, калі яны ТАМ, забяры мяне да іх, — закрычаў ён у адчаі...

Ад крыку вярнулася свядомасць, мацней забілася сэрца, пачасцілася дыханне.

Расплюшчыліся вочы. Навокал толькі белае. Ён агледзеўся. Кафля. Ён — у ваннай. Не памёр. Рукі... За іх яго прывязалі да трубы, што ішла да ўмывальніка. Звязаны і ногі. Вуснаў не разняць. На іх — стужка. Уладзімір прыслухаўся. Цішыня...

"Пакінулі жывым!" — працягваў працаваць яго мозг. — Дарэмна..."

Дарэмна ён напружыўся — увесь боль ажыўшага цела абрынуўся на яго. Ён зноў ледзь не страціў прытомнасць.

"Асцярожна, — сказаў ён сабе, — асцярожна".

"Думаць, думаць, не спаць", — загадваў яму розум, калі першыя спробы выблытацца з пасткі не ўдаліся.

Труба. Труба ідзе да зліву. Зліў новы, пластмасавы, ён проста пафарбаваны белай эмаллю разам з трубою.

Так, падцягнуць вяроўку да зліву, і, упёршыся нагамі, рвануць.

Павольна прыўстаў на калені. Вяроўка нацягнулася. У нешта ўпёрлася. Канец? Не, не канец. Гэта апошняе мацаванне трубы, самае слабае.

Уладзімір прыцісնуўся спіною да зліву. Уявіў, што разбягаецца, і — рвануў. Ён разумеў, што ўдарыцца галавой аб падлогу. Але гэта не палохала. Пачуццё свабоды ўзяло верх над свядомасцю, і спыніць яго было немагчыма.

Падаючы, Уладзімір паспеў павярнуць галаву і тым самым ўратаваў свой не вельмі моцны нос ад перапому. Адляцеў да дзвярэй. Націснуў на іх нагамі. Адчыніліся. Зноў прыслухаўся: па-ранейшаму ціха.

Рукі... Вяроўка рэзала цяпер іх не так моцна. Відаць, напружыўшыся, ён расцягнуў яе. Шанец ёсць.

Спрабуючы паслабіць вузел, ён рэзка заторгаў рукамі. Яны вызваліліся, але анямелі пальцы. Нудзіла. Ён пацягнуў больш моцную правую руку на сябе. Яна прапезла праз путы, вырвалася на волю.

"Цяпер — ногі, — загадаў сабе Уладзімір, але ў галаве стаяў

— Усё будзе добра, усё будзе добра, — гаварыў Уладзімір. Узяўшыся за стол, прыпадняўся. Сталовыя прыборы ляжалі ў шуфлядзы стала. Выняўшы нож, апусціўся на калені. Усмяна бачачы, што робіць, разрэзаў на жончыных руках вяроўкі. Неўзабаве абмяк і зацік...

"Халаднавата. Шэра-салатавыя сцены. Жалезны ложак. Палата? Так... Я ў бальніцы... — зразумеў Уладзімір. — Жывы..."

Пачуўся шум. Адчыніліся дзверы. На парозе паявіліся двое. Але не тыя. Іншыя. У форме.

— Вы апрытомнелі? — набліжаючыся, спытаў адзін з іх. — Вельмі добра. Вы не хвалюйцеся, ваша жонка і дзіця жывыя. У іх усё нармальна. Яны ляжаць у гэтай самай бальніцы. Даруйце, што турбуем, але ж вы разумееце — час не чакае. Чым хутчэй мы сёе-тое высветлім, тым болей шанцаў затрымаць бандытаў.

Чамусьці не хацелася гаварыць, і Уладзімір заплюшчыў вочы.

— Вы што, таварышы, зусім з глузду з'ехалі? — убег, абурана размахваючы рукамі, доктар. — Сястра на хвілінку па лекі выйшла, а вы тут як тут, пакой міліцыі ў палаце арганізавалі. Чалавека некалькі гадзін назад з таго свету выцягнулі! Зараз жа пакіньце палату!

Ноччу нячутна зайшла медсястра. Убачыўшы, што Уладзімір ляжыць з расплюшчанымі вачамі, сказала:

— Даруйце, што турбую. Я толькі на секундачку. Я пазнала вас. Вы вядзеце начную дыскатэку ў кавярні, што недалёка ад майго дома. Я некалькі разоў была там, і мне вельмі спадабалася. Адразу відаць, што працуеце вы шчыра, ад душы. Музыка толькі з пласцінак, відэа кожны раз новае. І голас. Голас, які ўвесь час зараджае энергіяй... Душа бывцам у неба адлятае... Я была на іншых дыскатэках, але там зусім не тое. Вы ўжо даруйце, што патурбавала, але я хацела, каб вы ведалі...

— Дзякуй вам, цяпер ведаю. Яшчэ раз дзякуй.

— Ой, ды што вы, няма за што. Гэта вам дзякуй! І яшчэ пра адно хачу вам сказаць. Папярэдзіць... Адзін з тых, што былі ў вас у палаце, відаць, старшы, перад адыходам загадаў другому застацца дзяжурыць — цяпер ён спіць. Дык вось, адыходзячы, ён двойчы

І праз некалькі гадоў яна ў яго будзе.

Ужо бліжэй да заканчэння школы сыну спадабаецца гатаваць, і ён пойдзе да повара вучнем. Наташа плача, калі "яе хлопчык" пячэ нам што-небудзь смачненькае...

II

— Заб'ю! — прахрыпеў той, што прыставіў нож.

Другі, з "пушкай", дадаў:

— Ляжа-аць!

Рэзкім ударам левай Уладзімір адбіў руку з нажом і, развярнуўшыся, правай адкінуў бандыта, што трымаў рэвальвер, да балкона. Той галавой прабіў шкло дзвярэй, і адзін са шкляных асклепкаў утыкнуўся яму ў горла.

Замах рукі з нажом і ўдар Уладзіміра яе ўладальніку нагою ў пахвіну зліліся ў адно імгненне, і выпушчаны нож торкнуўся ў край канапы. Паўторны ўдар кулаком аглушыў верхавода, але той паспеў крыкнуць:

— Сюды-ы!

Трэці скочыў на жакея ззаду, ды памыліўся. Кідкі праз плячо ва Уладзіміра атрымліваліся лепш за ўсё. Наляцеўшы на тэлевізар, бандыт пераверну ўся, ударыўся галавой аб сцяну і заціх.

"Цяпер — на кухню!" — пранеслася ў галаве Уладзіміра.

Ён кінуўся да выхаду, але бандыт, які ўрос у балконныя дзверы, яшчэ дыхаў і націснуў на курок. Першы стрэл адкінуў Уладзіміра назад. Другі прымусіў страціць раўнавагу. Трэцяга ён ужо не пачуў. Чацвёрты спыніў сэрца. Тут жа сканаў і той, хто страляў.

...Верхавод апрытомнеў, агледзеўся, узяў з рук памерлага рэвальвер, павярнуўся да тэлевізара і стрэліў у галаву трэцяму, што распластаўся перад ім. Вярнуўшыся на кухню, ён нагнуўся, схапіў за валасы жанчыну, прыўзняў і, ткнуўшы ствол у скронь, стрэліў.

Ні секунды не марудзячы, рвануўся да выхаду з кватэры. "Наводчыку язык адрэжу", — даў сабе слова верхавод.

Дзіця ў ложку не плакала, як быццам разумела, што наперадзе ў яго ўсё жыццё і што змагацца з ім ён будзе адзін. І малы зберагаў сілы.

Праз чвэрць стагоддзя пра яго напішуць:

ПРАГРАМУ РЫХТАВАЎ І ВЕЎ УЛАДЗІМІР

Пачуліся ўсхліпы, і ён убачыў, як малюсенькія ножкі ўзняліся ўверх, заторгаліся.

"Усё, хопіць, — загадаў ён сабе. — Сынам рызыкаваць — не сабою..."

— Грошы ў шафе, на верхняй паліцы злева.

Трэці выпатрашыў паліцу, пасля наступную — грошай не было.

Нервовы, з рэвальверам, размахнуўся і пасля чарговага ўдару залітае крывёй цела ўпала перад дзіцячым ложкам.

Падаючы, Уладзімір пачуў: "Ёсць!" і прыхапіў за сабой коўдру, што душыла сына...

Цемра. Цяпер усё. Ён сваё ад'ездзіў. Адпрацаваў. Было шмат чаго. Можа, і сапраўды даволі? Ён жа бачыў столькі, што хапіла б на два, тры жыцці! Магчыма, і сапраўды ён выбраў ліміт у Бога?

"Ці так гэта?" — у адчаі Уладзімір асмеліўся спытаць ва Усявышняга.

туман, і ён зразумеў, што вызваліцца не паспее. — Трэба спяшацца".

І ён папоўз да кухні...

Жонку прывязалі да батарэі пад абедзенным столікам. Скручаная вяроўкамі і з заклееным ротам, яна паглядала на яго застылымі ад жаху вачыма. Яе пакуты і боль выклікалі ў ім лютасць, нянавісць, адчай: "Падонкі, сволачы, гады!" Ён падпоўз бліжэй. Асцярожна зняў з вуснаў скотч. Нічога не сказаў, забыўся, што ўмее гаварыць. Сказала Наташа:

— О, Божа!

— Ціха, ціха, — супакойваў ён яе, хоць разумеў, што дарэмна. — Не глядзі, не трэба, усё будзе добра, — шаптаў ён, не разумеючы, што Наталля не заплюшчыць вочы, гледзячы на яго акрываўленую галаву, грудзі, усё цела.

— Ты не памрэш, ты не памрэш, — ажыла нарэшце яна, горнучыся да яго.

паўтарыў: "Галоўнае — даведайся, колькі грошай забралі. Калі сума вялікая, дык паспрабуй выведаць, адкуль яна ў яго. Распытай, дзе ўзяў "бабкі" на фінскі скураны плашч, японскі тэлек з відзікам..."

"Ага, — думаў ён ужо пра сваё, — іх хвалюе толькі тое, што грошы не яны забралі, а бандыты... А якая для мяне была б розніца? Нажом не рэзалі б? Рэвальверам бы не глушылі? Дык у іх іншыя цікавыя цацкі для гэтага самага ёсць..."

Чамусьці больш за ўсё было шкада повара, які ў кавярню прыходзіў вечарам, адпрацаваўшы змену ў заводскай сталоўцы. Ён апошні, дванаццаты, рашыўся аддаць на тое, каб прыдбаць новае абсталяванне, сабраныя за год работы грошы.

Ён проста мроіў пра сваю піцэрыю...

**Леанід МАРАКОЎ**

**ЗАХАВАЙ ТРАДЫЦЫЮ**





# КУПАЛЛЕ НА БЕРАЗЕ ПЦІЧЫ

У беларускім дзяржаўным музеі архітэктуры і быту "Менка" ў самую кароткую летнюю ноч адзначаецца старажытны абрад Купалле. На беразе Пцічы запальваюць купальскі касцёр, водзяць карагоды, выконваюць абрадавыя песні. На традыцыі ў гэтую ноч дзяўчаты кідаюць у ваду вянкі, варожаць на суджанага.

НА ЗДЫМКАХ: святкаванне Купалля.

**Фота Наталлі АБЛАЖЭЙ**, БелТА.





УРАЖАННІ

# Андрэй ГАНЧАР: «У ГЭТЫМ ЖЫЦЦІ Я МАСТАК...»

*Мастак Андрэй Ганчар працуе ў вельмі рэдкім стылі спалучэння жывапісу і графікі. На першы погляд, яго карціны абстрактныя і нават пужаюць, але калі іх разгледзіш уважліва, то адчуеш, што яны выпраменьваюць нейкую цеплыню. На яго карцінах намаляваны то язычніцкі бажок, то залатакудрая індыянка, то зямны шар, ахутаны з усіх бакоў стыхіямі. Каб лепш зразумець карціны, прапануем вам размову з самім мастаком.*

**— Перш-наперш, Андрэй, хочацца запытаць, чаму вы ўзялі сабе псеўданім Ганчар, калі сапраўднае ваша прозвішча таксама гучнае — Кашкоўскі.**

— Былі на гэта пэўныя асабістыя прычыны, але, бадай, галоўнае — я не быў гатовы гучна заявіць пра сябе.

**— На многіх вашых карцінах намаляваны адзін і той жа жаночы вобраз. Магчыма, гэта нейкая канкрэтная жанчына, пра якую можна сказаць, што яна ваша муза?**

— Думаю, для любога творчага чалавека жанчына з'яўляецца галоўнай крыніцай натхнення. Але вобраз гераіні на маіх палотнах — зборны вобраз жанчыны, які ўвабраў лепшыя рысы ўсіх жанчын, у тым ліку, і блізкіх мне — мамы, жонкі Лены.

**— У якім узросце адчулі, што вы — мастак?**

— Шчыра кажучы — я не адчуваю сябе знакамітасцю, ды і наогул працую не дзеля славы...

**— Тады дзеля чаго?**

— Мая выстава называецца "Час выбару". У назве закладзены галоўны сэнс не толькі гэтай выставы і прадстаўленых прац, але і ўсяго майго творчага жыцця. Я хачу сваім мастацтвам заклікаць людзей задумацца і зрабіць выбар паміж дабром і злом. І я буду шчаслівы, калі мае карціны каму-небудзь рэальна дапамогуць.

**— Гэта ваша першая выстава?**

— Другая. Першая была наладжана тры гады назад. Мне тады было 29 гадоў.

**— Ці былі ў вашым творчым жыцці такія моманты, якія называюць крызісам?**

— Я не ведаю, ці можна гэта назваць крызісам, але, здараецца, калі малюеш запар шмат карцін, потым надыходзіць своеасаблівы перапынак. Узнікае патрэбнасць у новай порцыі натхнення, пачынаецца пошук новых вобразаў для будучых карцін. Для гэтага мне не патрэбна некуды далёка ехаць ці наведваць шумныя мерапрыемствы, часта проста хапае сямейнага ачагу і хатняй утульнасці.

**— У вас ёсць хобі?**

— Канешне. Захапляюся астралогіяй, нават магу скласці прагноз.

**— Ці ўплывае хобі на тэмы вашых карцін?**

— Прамога ўплыву астралогія не аказвае. Але захапленне астралогіяй дапамагае разабрацца ў самім сабе.

**— На некаторых вашых карцінах створаны вобразы ўсходніх цывілізацый. Ці даводзілася вам пабываць дзе-небудзь, напрыклад, у Кітаі, Японіі?**

— Можа, у якім-небудзь мінулым жыцці і быў **(смяецца)**. Калі гаварыць сур'ёзна, то, думаю, наша існаванне адным жыццём не абмяжоўваецца. Хаця, магчыма, гэта мае фантазіі.

**— Вы — вольны мастак?**

— Можна сказаць так: у вольны час — вольны мастак. Я не ўваходжу ні ў Саюз мастакоў, ні ў якія іншыя саюзы. Працую афармiцелем у дзяржаўным кінаканцэртным зале "Мінск".

**— У вас ёсць любімы колер?**

— Мне падабаюцца пастэльныя таны: нябесна-блакітны, салатавы. Наогул, як мастак, я павінен любіць усю палітру фарбаў — ад белага да чорнага.

**— Якім фарбам аддаеце перавагу?**

— Большасць карцін малявау, выкарыстоўваючы сумесь гуашы з некаторымі іншымі фарбамі. Мне здаецца, такія карціны выглядаюць больш натуральна. І неба здаецца больш празрыстым і блакітным, а не сумнай плямай на палатне.

**— Колькі часу вы працуеце над карцінай?**

— Калі лічыць па гадзінах, то ў сярэднім 10—15, а было, што і некалькі месяцаў. Я працую без эскізаў, адразу фарбамі. Мне здаецца, калі малюю па эскізах, карціна атрымліваецца нейкая мёртвая.

Пачынаючы працу, я ніколі не ведаю, што атрымаецца. Закончаны вобраз складваецца ўжо ў час малявання.

**— Далікатнае пытанне. Ці даводзілася вам маляваць па заказу?**

— Даводзілася, і я аб гэтым не шкадую, бо кожная новая карціна дапамагае ўдасканальваць майстэрства. Воляй выпадку мая карціна трапіла да маці знакамітага хакеіста Паўла Бурэ: адзін знаёмы ехаў да яе на дзень нараджэння і папрасіў намаляваць для яе карціну. Мне было складана, я ніколі яе не бачыў, не было нават фотакарткі, толькі факты з жыцця. Але, як мне сказалі, карціна ёй спадабалася.

**— І апошняе пытанне: дзе можна набыць вашы карціны?**

— Толькі ў маёй майстэрні: у мастацкія салоны іх не прымаюць, бо там лічаць, што яны незразумелыя і не будуць карыстацца попытам. Крыўдна, канешне, але нічога не магу з гэтым зрабіць.

**— Дзякуй, Андрэй, за размову.**

**Глеб ЛАБАДЗЕНКА.**



*Сямейны партрэт.*



*Пентаманія. (Трыццаты сонечны дзень.)*

КУЛЬТУРЫЗМ





Рэспубліканскі турнір па культурызму прайшоў у Віцебску. Свае майстэрства дэманстравалі мацнейшыя атлеты Мінска, Гомеля, Магілёва, Гродна, Наваполацка, Віцебска. У агульнакамандным заліку першае месца заняла каманда Віцебска.

НА ЗДЫМКАХ: бронзавы прызёр турніру Наталля ТАРАСЕНКА (Віцебск); пераможца турніру ў вагавай катэгорыі да 70 кг майстар спорту Вадзім УЛАСАЎ (злева) з Пастаў і сярэбраны прызёр віцьблянін Уладзімір БАРАУЛЯ; пераможца ў вагавай катэгорыі 75 кг Генадзій ЛЯВІЦКІ з Гродна.



БелТА.

**ВІЦЭ-МІС "ЗЯМНЫ ШАР" — МІНЧАНКА.** У пачатку чэрвеня ў турэцкім горадзе Чэрне праходзіў міжнародны конкурс прыгажосці "Miss GLOBE-2000". У ім удзельнічалі 28 дзяўчат з розных краін свету. Нечакана для ўсіх прадстаўніца нашай краіны — 17-гадовая Вольга Дудзінская заняла на ім другое месца, стаўшы першай віцэ-міс конкурсу.

Вольга працуе мадэллю ў "Студыі моды Сяргея Нагорнага", вучыцца на другім курсе Беларускага дзяржаўнага харэаграфічнага каледжа на аддзяленні "артыст балета". У сакавіку гэтага года закончыла нацыянальную школу прыгажосці пад кіраўніцтвам Наталлі Траян. Валодае французскай і англійскай мовамі, мае добрую харэаграфічную падрыхтоўку. Яна атлетычная, рухавая, усмешлівая і сціплая. Менавіта за гэтыя якасці дзяўчына і спадабалася журы. Да таго ж яна была самай юнай удзельніцай.

Пасля конкурсу беларускай прыгажуні прапанавалі працаваць мадэллю ў Паўднёвай Карэі, запрасілі на конкурс "Міс Турызм" у Бразіліі.

## АДКАЗЫ НА КРЫЖАВАНКІ, ЗМЕШЧАНЫЯ Ў №№ 25–26

ПА ГАРЫЗАНТАЛІ: **2. Лазня. 6. Грак. 7. Вока. 9. Краты. 10. Лясун. 12. Бусел. 13. Настаўнік. 18. Чаравік. 21. Гутарка. 22. Парасон. 23. Ступа. 24. Пацук. 25. Будынак. 27. Цвыркун. 28. Рамонак. 32. Падарунак. 35. Ганак. 36. Куфар. 37. Воўна. 38. Твар. 39. Газа. 40. Качка.**

ПА ВЕРТЫКАЛІ: **1. Ласун. 3. Атрута. 4. Натоўп. 5. Пошук. 6. Гляк. 8. Алей. 11. Накіп. 12. Бізун. 14. Пастава. 15. Пашпарт. 16. Карагод. 17. Скрутак. 19. Кавун. 20. Нарыс. 21. Гонар. 25. Бурак. 26. Карак. 29. Камора. 30. Ручнік. 31. Жарт. 32. Пасаг. 33. Кубак. 34. Шаша.**

* * *

ПА ГАРЫЗАНТАЛІ: **1. Стварэнне. 5. Пал. 7. Настурка. 9. Мультан. 11. Папера. 12. Жарт. 13. Каханне. 14. Зрок. 15. Веды. 16. Фіранка. 18. Надзея. 21. Лянота. 25. Навіна. 27. Абрус. 29. Кошт. 33. Маёнтак. 35. Нараканне. 36. Развітанне. 37. Галіна.**

ПА ВЕРТЫКАЛІ: **2. Трус. 3. Альтанка. 4. Куфар. 5. Панаванне. 6. Лістапад. 8. Адпачынак. 10. Аратай. 11. Певень. 14. Зязюля. 16. Фанабэрыя. 17. Радзіма. 19. Золак. 20. Канюшына. 22. Кішэнь. 23.Сорам. 24. Гасцінец. 26. Абурэнне. 28. Брама. 30. Спёка. 31. Мара. 32. Маці. 34. Кут.**

«Голас Радзімы»

Намеснік галоўнага рэдактара Галіна УЛІЦЁНАК

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь; Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі; Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом "Радзіма".

РЭДАКЦЫЯ:
Намеснік галоўнага рэдактара **Галіна УЛІЦЁНАК.** Адказны сакратар **Таццяна КУВАРЫНА.** Рэдактар аддзела — член рэдкалегіі **Яўген ЛЕЦКА.** Рэдактар аддзела **Алена СПАСЮК.** Аглядальнікі **Юрась ЛЯШКЕВІЧ, Леанід МАРАКОЎ, Таццяна ХРАПІНА.** Спецыяльны карэспандэнт **Нэлі ПРЫВАЛАВА.** Рэдактар-перакладчык **Святлана КАРПУЧОК.** Стыльрэдактар **Ірына КАЗЛОВА.** Тэхнічны рэдактар **Данута РАКАВЕЦ.**

НАШ АДРАС: 220005, Мінск, пр. Ф. Скарыны, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: (+375-17) 213-31-97 (тэл.-факс), 213-32-80, 284-76-56, 213-37-82.

Пазіцыі рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.
Падпісны індэкс у Беларусі 63854.
Тыраж 1 677 экз.
Зак. 1698.
Падпісана да друку 10.7.2000 г. у 12.00.

Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).